**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.42, 16.08, 8.26;
Віцебск — 7.38, 15.52, 8.14;
Магілёў — 7.31, 15.57, 8.26;
Гомель — 7.24, 15.59, 8.35;
Гродна — 7.58, 16.23, 8.25;
Брэст — 7.50, 16.31, 8.41.

**МЕСЯЦ:**

Апошняя квадра 17 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**

Галакціёна, Іоны, Рыгора.



# ЗВЯЗДА

18 ЛІСТАПАДА 1992 г. серада, № 232 (22010)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### ПА РАЦЭ ДАЛЁКА МАЛАКО ПЛЫЛО

**РЭЧЫЦА (Ул. Пернікаў). Відаць, у горадзе над Дняпром хто-ніхто так ужо наеўся малочных прадуктаў, што яны, як кажуць, не лезуць у горла. Можа, гэтым і тлумачыцца той факт, што з ёмістасцей маслазавода нехта зліў у каналізацыю сем з паловай тон абястлушчанага малака, 4 тоны смятаны і столькі ж кефіру. Такім чынам, па рацэ далёка паплылі 223 тысячы 535 рублёў. «Сытых» зламыснікаў пакуль што знайсці не ўдалося.**

### «21БЧ» — ГЭТА СВАЕ

Нядаўна ў Мінску адбылося чарговае пасяджэнне Савета па чыгуначным транспарце дзяржаў — удзельніц Садружнасці, на якім была падзелена чыгуначная гаспадарка былога Саюза. У адрозненне ад падзелу іншай маёмасці (калі галоўны акцэнт рабіўся на лічбу нацыянальнага даходу), тут пайшлі іншым шляхам і ўлічылі сярэднестатыстычную колькасць вагонаў, якія на працягу апошніх пяці гадоў штодзённа (у 18 гадзін) знаходзіліся на кожнай з чыгунак СНД і Прыбалтыцы. У выніку Беларусь атрымала 36.098 вагонаў, або 2,39 працэнта да агульнай колькасці. Дарэчы, у бліжэйшыя тры месяцы з дапамогай трафарэтаў будуць нанесены ўмоўныя абазначэнні іх дзяржаўнай прыналежнасці. На нашых вагонах будзе надпіс «21БЧ», што азначае кодавы нумар і «Беларуская чыгунка».

### На цеплаходзе музыка іграла

**ГОМЕЛЬ. (Ул. Пернікаў).** Напэўна, з нагоды таго, што яшчэ не ўдарылі маразы. І гэта садзейнічала правядзенню на Сожы выпрабаванняў крылатага пасажырскага цеплахода «Палессе», які адпраўлены заказчыку ў Благавешчанск. Гэта ўжо дзесятае па ліку судна, выраблене сёлета гомельскімі карабеламі. Акрамя таго, яны змайстравалі і восем надзейных у рабоце буксіроўшчыкаў-штурхачоў. За дзесяць месяцаў суднабудаўніча - суднарамонтны завод атрымаў дзесяць мільёнаў рублёў звышпланавага прыбытку.




Малюнак А. ШАЎЦОВА.

### ДА БЕРАГОЎ ГВІНЕІ

З Рыжскага марскога порта адпраўлена некалькі ўзораў машын, якія выпускае Мінскі трактарны завод. Далейшы шлях карабля ляжыць у Гвінею. Тут, у горадзе Конакры, з 2 па 9 снежня пройдзе міжнародны аўтамабільна-сельскагаспадарчы салон з удзелам буйнейшых сусветных вытворцаў тэхнікі такога роду.

— Наша задача,— сказаў галоўны эксперт заводскай знешнегандлёвай фірмы Вячаслаў Бомбераў,— пранікнуць на рынак Заходняй Афрыкі, дзе і зараз марка «Беларусь» невядомая. З гэтай мэтай для міжнароднага паказу выбраны трактар «Беларусь» МТЗ-522, а таксама міні-трактар «МТЗ-082 БС» і мотаблок «МТЗ-08 БС» з амерыканскімі рухавікамі. Яны аснашчаны наборам сельскагаспадарчых прылад — прычэпам, плугам, бараной, акучнікам і касілкай.

На жаль, на шляху карабля з экспанатамі МТЗ у Афрыку ўзніклі цяжкасці. Марская бура, якая разыгралася ў гэтыя дні, паставіла пад пагрозу своечасовае прыбыццё грузу ў Гвінею і ўдзел трактаразаводцаў у апошняй сельскагаспадарчай выстаўцы адыходзячага года.

**Алег ПРАЦЬКО.**

### ПРАЦЭС ПАЙШОЎ?

Старт доўгатэрміновым экалагічным даследаванням вынікаў Чарнобыля дала, будзем спадзявацца, мінская рабочая нарада вучоных розных краін свету. Яе мэтай было стварэнне Чарнобыльскай экалагічнай доследнай сеткі (ЧЭДС). На сустрэчы было заслухана 12 дакладаў — па маніторынгу аграэкасістэм і генетычнаму маніторынгу, экалогіі чалавека і вывучэнню стану здароўя насельніцтва і г. д.

Цікава, што на сустрэчы ці не ўпершыню гучала сур'ёзная крытыка ў адрас МАГАТЭ. У прыватнасці, член-карэспандэнт АН Украіны Э. Сабатовіч падкрэсліў: МАГАТЭ не зацікаўлена ў аказанні нам дапамогі, толькі мы самі павінны знаходзіць выйсце са становішча.

На гэта генеральны сакратар Міжнароднага радыеэкалагічнага супольніцтва прафесар Р. Кірхман заўважыў: пан Сабатовіч, як заўсёды, у сваім амплуа; ён, відаць, апрача недахопаў МАГАТЭ, нічога не бачыць... Тым не менш, як гаворыцца, праблема застаецца.

Рабочая нарада вырашыла заснаваць Міжнародны каардынацыйны камітэт, які складаецца з прадстаўнікоў Беларусі, Расіі, Украіны і шэрагу замежных краін. Для паляпшэння сувязей і абмену навуковай інфармацыяй плануецца заснаваць Бюлетэнь Чарнобыльскай экалагічнай доследнай сеткі.

Для каардынацыі даследчых праграм і міжнароднага супрацоўніцтва па ЧЭДС будуць створаны Сусветны сакратарыят і Міжнародны цэнтр радыебіялагічных і радыеэкалагічных даследаванняў пад патранажам Інстытута радыебіялогіі Акадэміі навук Беларусі і ЮНЕСКО.

**Іван КІСЯЛЁЎ.**

### РЭФЕРЭНДУМ МЯСЦОВАГА МАШТАБУ ТАКСАМА ПАД ПЫТАННЕМ

**Яшчэ не паспелі ўціхнуць страсці пасля абмеркавання на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі пытання аб рэспубліканскім рэферэндуме, як скандал вакол таго ж пытання ўзнік у Глуску. Вядома, глусчане патрабавалі адстаўкі не беларускага парламента, а толькі свайго, мясцовага, органа ўлады — раённага Савета народных дэпутатаў.**

Яшчэ ў верасні ініцыятыўная група падала заяву аб сваёй рэгістрацыі ў райвыканком і на працягу месяца чакала пасведчання аб рэгістрацыі, пасля чаго можна было пачынаць збор подпісаў. Аднак замест гэтага ініцыятары дачакаліся ад райвыканкома рашучай адмовы. У лісце, падпісаным старшынёй райвыканкома, гаворыцца, што фармулёўка пытання, якое павінна было выносіцца на рэферэндум, не адпавядае закону, згодна з якім права роспуску мясцовага Савета належыць толькі Вярхоўнаму Савету Беларусі.

Між тым, члены ініцыятыўнай групы, расцаніўшы такое рашэнне як незаконнае, звярнуліся ў адпаведнасці з артыкулам 10 Закона аб рэферэндуме ў суд. Невядома, якое будзе канчатковае рашэнне ў Глуску, але мы маем звесткі, што ў Чэрыкаве (той жа Магілёўскай вобласці) у падтрымку раённага рэферэндуму ўжо нават сабраны подпісы. Чамусьці суседзі ніякага парушэння заканадаўства не знайшлі.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ В. КЕБІЧА

# НА ХВАЛЯХ ІНЕРЦЫІ?

## Садружнасць напярэдадні сваёй гадавіны перажывае не лепшыя часы

Пазаўчора Старшыня Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіч правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў, на якой расказаў аб выніках сустрэчы кіраўнікоў урадаў СНД у Маскве.

Галоўнае пытанне сустрэчы — статут Садружнасці. Як зазначыў прэм'ер, статут абмеркаваны і прапанаваны на разгляд кіраўнікоў дзяржаў на сустрэчы ў Мінску, якую мяркуецца правесці 4 снежня.

Але гэта галоўнае пытанне па сутнасці на прэс-канферэнцыі неяк адышло на задні план, уступіўшы месца больш надзённым, больш канкрэтным. (Між іншым, як можна было зразумець, абмеркаванне многіх з іх на сустрэчы ў Маскве часам насіла неафіцыяльны характар.)

Найперш В. Кебіч сказаў: вялікіх адкрыццяў ён не зрабіў: чаго чакалі — да таго і прыйшлі. На яго думку, не ўдалося дабіцца галоўнага — адмены існуючага двухбаковага рублёвага клірынгу. Варта нагадаць, што зараз узаемаразлікі паміж рэспублікамі былога Саюза робяцца на двухбаковай аснове. Напрыклад, наша рэспубліка можа аплаціць расійскую прадукцыю толькі сродкамі, выручанымі ад продажу нашай прадукцыі на расійскім рынку. Вядома, гэта балюча б'е па эканоміках, і асабліва тых рэспублік, эканоміка якіх мае шырока разгалінаваныя сувязі. Карацей, адзінай рублёвай зоны, наконт якой так многа гаварылі раней, — няма, што, у прыватнасці, падкрэсліў і В. Кебіч. Можна думаць, што адсутнасць пэўнай дакладнасці, строгай дамоўленасці ў гэтым пытанні перашкаджае прыняццю і іншых дамоўленасцей. Зрэшты, гэтая акалічнасць не перашкодзіла дамовіцца аб стварэнні кансультатыўна-каардынацыйнага савета. Наколькі эфектыўнай будзе яго дзейнасць?..

Клірынгавыя абмежаванні не даспадобы і іншым. Па словах В. Кебіча, Б. Ельцын таксама за тое, каб канчаць з двухбаковым клірынгам, але пры гэтым ён за пераход на валюту пры разліках...

Лагічным крокам з'яўляюцца і прапановы па ўвядзенню абменных курсаў унутры СНД — расійскага рубля да беларускага, расійскага да ўкраінскага і г. д. Да такога кроку падштурхоўвае і розны ўзровень цэн і зарплаты ў рэспубліках. А ўвогуле, па ўсім відаць, справа ўпэўнена рухаецца да ўвядзення ўласных грошай у кожнай рэспубліцы, як гэта зрабіла Украіна.

Прадаўжаючы фінансавую тэму, трэба дадаць: наша рэспубліка папрасіла ў Расіі яшчэ 40 мільярдаў рублёў так званага тэхнічнага крэдыту (60 мільярдаў гэтага крэдыту мы ўжо ўзялі), які трэба будзе вяртаць пэўнымі таварнымі пастаўкамі. Адсутнасць расійскіх грошай у нас у многім тлумачыцца тым, што не аплачана наша прадукцыя, якая, з дазволу сказаць, «прададзена» неплацежаздольным расійскім прадпрыемствам.

Яшчэ адно пытанне, якое надзвычай закранае нашы эканамічныя інтарэсы: зводзіцца да мінімуму, да некалькіх пазіцый, у прыватнасці ў Расіі, дзяржзаказ. У наступным годзе яна, напрыклад, не збіраецца трымаць цэны на нафтапрадукты. Гэта значыць, кожнай рэспубліцы трэба будзе выходзіць непасрэдна на здабытчыкаў, на нафтавыя канцэрны і дамаўляцца аб закупках з імі. Вядома, па дагаворных, а значыць, няйначай, сусветных цэнах. Прычым у памерах тых квот, якія будуць выдзелены. Расія таксама збіраецца па многіх пазіцыях увесці экспартны падатак. На што В. Кебіч заўважыў: тады ўвядзём і мы.

«Вечнае» пытанне сустрэч — тэлекампанія ў Астанкіне. Дакумент па ёй зноў не прынялі, і зноў спатыкнуліся на фінансава - маёмасных пунктах. Увогуле, як зазначыў В. Кебіч, была спроба стварыць тэлекампанію Ягора Якаўлева.

Раздзел парка чыгуначных вагонаў — яшчэ адно пытанне парадку дня. Ва ўсякім разе, пэўная колькасць вагонаў нам дастанецца, а вось з гандлёвага флоту... В. Кебіч паведаміў такі факт: самы буйны танаж застаўся ў Латвіі, ён нават пераўзыходзіць танаж Расіі, прычым у шмат разоў. Словам, з гандлёвага флоту ў СНД, відаць, няма чаго і дзяліць. Краіны ж Балтыі гэтага пытання пазбягаюць і, напрыклад, на цяперашнім абмеркаванні іх дэлегацыі адсутнічалі. Затое на дзяльбу чыгуначнага транспарту з'явіліся. Праўда, гэтага нахабства ім не даравалі (пытанне падняла беларуская дэлегацыя) і не прынялі іх у разлік. Хоць, вядома, іх «кавалак», калі ўсё так і застанецца, усё роўна будзе больш спакуслівы.

На прэс-канферэнцыі закраналася таксама пытанне аб граніцах. Па словах В. Кебіча, граніцу з Балтыяй будзем закрываць.

Увогуле, можна меркаваць, што Садружнасць напярэдадні сваёй гадавіны перажывае не лепшыя часы. Працэс размежавання, які пачаўся амаль адразу ж пасля яе стварэння, відаць, яшчэ не закончыўся.

Пры гэтым варта зазначыць, што адабрэнне статута кіраўнікамі ўрадаў было хутчэй фармальным актам. Яшчэ большы ўпор, відаць, будзе зроблены на двухбаковыя адносіны. Да гэтага падштурхоўвае ўся логіка развіцця падзей, логіка папярэдніх сустрэч. Садружнасць хутчэй за ўсё плыве на хвалях інерцыі: курс, калі ён і карэкціруецца на сустрэчах, дык амаль тут жа, пасля таго як раз'ехаліся, збіваецца. Мы дагэтуль усё ніяк не можам падзяліць... Ці тую, патрэбную форму суполкі выбралі?

Наконт упору на двухбаковыя адносіны сведчыць і наша дыпламатычная актыўнасць у апошні час з мэтай заключэння адпаведных пагадненняў. У сувязі з гэтым варта зазначыць: хоць падобныя сустрэчы на вышэйшым узроўні аптымізму не дабаўляюць, затое гэта дазваляе больш дакладна вызначыць пазіцыю, а можа, і пракласці новы курс. Галоўнае ж — у любым выпадку, тым больш пры няпэўнасці адносін, нам трэба неаднойчы «ўзважваць» сваю выгаду. Менавіта яе... Між іншым, абяцаны Казахстанам хлеб затрымліваецца, пра што таксама было сказана на прэс-канферэнцыі.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## Да візіту прэм'ер-міністра Польшчы ў Беларусь

18 лістапада рэспубліку з афіцыяльным візітам наведае Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Польшча Ханна Сухоцка.

Ханна Сухоцка нарадзілася ў 1946 годзе ў Плешаве. У 1968 годзе скончыла юрыдычны факультэт універсітэта імя А. Міцкевіча ў Познані, дзе з 1972 года працуе на кафедры канстытуцыйнага права. З 1982 года выкладае ў каталіцкім універсітэце ў Любліне. Спецыялізуецца перш за ўсё ў галіне законнасці, сістэме арганізацыі дзяржавы і праблемах, звязаных з правамі чалавека.



Палітычную дзейнасць пачала ў 1980 годзе і тройчы атрымала дэпутацкі мандат. У сейме VIII склікання, у які ўвайшла ад Дэмакратычнай партыі, належала да невялікай апазіцыйнай групы. Працістаяла, у прыватнасці, Закону аб прафсаюзах, што аб'явіў па-за законам «Салідарнасць». У камісіі па заканадаўчых правах галасавала супраць закона, які зацвярджаў Дэкрэт аб ваенным становішчы. У 1984 годзе выйшла з Дэмакратычнай партыі, не згадзіўшыся з праектам палажэння аб выбарах, які захоўваў манаполію спіса выбаршчыкаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

У сейме X склікання была членам кіраўніцтва Грамадзянскага парламентарнага клуба і намеснікам старшыні Заканадаўчай камісіі, прымала ўдзел у рабоце камісій канстытуцыйнай і нацыянальных меншасцей. З 1991 года знаходзіцца ў клубе Дэмакратычнага саюза. Ад гэтай жа партыі ўвайшла ў цяперашні сейм. Зноў з'яўляецца намеснікам старшыні Заканадаўчай камісіі і членам Надзвычайнай камісіі па пытаннях малой Канстытуцыі.

Старшыня польскай дэлегацыі на Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, у якой выконвае абавязкі намесніка старшыні.

Валодае французскай, англійскай і нямецкай мовамі.

Незамужняя.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

# КДБ СУПРАЦЬ КАРУПЦЫІ. ХТО ПЕРАМОЖА?

## РЭАЛЬНАЙ ПАГРОЗЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ Ў БЕЛАРУСІ ПАКУЛЬ НЯМА. АДНАК...

**Як і абяцаў старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Эдуард Шыркоўскі, дзверы Камітэта для журналістаў адчыніліся і пачаўся тыдзень адкрытых дзвярэй.**

**Э. Шыркоўскі адразу паведаміў, што яго даклад аб карупцыі на сесіі Вярхоўнага Савета выклікаў жывую рэакцыю не толькі ў рэспубліцы, але і за мяжой. Асабліва ў ЗША, сродкі масавай інфармацыі якіх працягваюць абмяркоўваць «залп» КДБ Беларусі па хабарніцтву ў вышэйшых эшалонах улады рэспублікі. Беларусь там цяпер прадстаўляецца, як самая карумпіраваная посткамуністычная краіна. Э. Шыркоўскі адзначыў, што гэта не зусім так, і што хоць барацьба з карупцыяй будзе весціся не на жыццё, а на смерць, аднак не трэба бачыць яе толькі ў адным святле негатыву. У Міністэрствах бяспекі Украіны і Расіі гэта барацьба лічыцца звыклай з'явай.**

**Эдуард Іванавіч запэўніў таксама прысутных, што ўсе матэрыялы па карупцыі ні ў якім разе не будуць выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах. Упраўленне КДБ па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю разам з Міністэрствам унутраных спраў збіраецца стварыць спецыяльныя незалежныя камісіі на раённым, гарадскім і іншых узроўнях, якія са свайго боку змагаліся б супраць фактаў службовых злоўжыванняў і «левай» прыватызацыі. «Калі мы арыштоўваем высокапастаўленую асобу, — заявіў Э. Шыркоўскі, — на следства ідзе паўгода, паўгода на суд, увогуле любая падобная справа цягнецца 2—3 гады. Як можна ў такіх умовах змагацца з карупцыяй!»**

**Э. Шыркоўскі не супраць супрацоўніцтва з БНФ, які таксама збіраецца ствараць свае камісіі па кантролю за злоўжываннямі некаторых службовых асоб.**

**Сітуацыя ўскладняецца, але гаварыць аб рэальнай небяспецы грамадзянскай вайны пакуль рана. Хоць Э. Шыркоўскі заявіў, што яму не падабаюцца намеры асобных дзеячаў з заходніх абласцей ствараць уласныя аўтаноміі. Не падабаецца старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі і імкненне многіх партый мець сваіх «дружыннікаў». Там, дзе ёсць такія «дружыннікі», з'яўляецца і зброя. Калі ёсць зброя, яна абавязкова страляе. «Усё мы гэта ўжо праходзілі», — сказаў Э. Шыркоўскі. Далей ён зазначыў, што ў прэсе з'явіліся выказванні аднавіць Армію Краёву для абароны пэўных дыяспар, напрыклад, польскай.**

**Шмат пытанняў у журналістаў выклікаў продаж зброі некаторым адказным супрацоўнікам Саўміна і МУС. Э. Шыркоўскі прызнаўся ў недапрацоўцы свайго ведамства ў гэтым пытанні. Каля 200 ствалоў было прададзена асобным службовым асобам фактычна незаконна. Аб выпадках вяртання зброі пакуль невядома. Уражвае тое, што сярод яе ёсць нават вінтоўкі з аптычным прыцэлам.**

**Па пагрозе «паўднёвага наплыву» Э. Шыркоўскі адказаў, што вельмі ўскладняюць абстаноўку бежанцы з паўднёвых рэспублік, 30 працэнтаў якіх не мае ніякіх дакументаў, і якія прыязджаюць да нас з самымі рознымі намерамі. Што тычыцца крыміягеннасці гандляроў «каўказскай» нацыянальнасці, то колькасць апошніх на нашых рынках скарацілася.**

**Увогуле сустрэча з Эдуардам Шыркоўскім праходзіла з разлікам на далейшае больш дакладнае і сур'ёзнае асвятленне ў «Звяздзе» праблем барацьбы з карупцыяй. Таму мы палічылі мэтазгодным надрукаваць асобныя вытрымкі з даклада Э. Шыркоўскага на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, які рэдакцыя атрымала са сваіх крыніц.**

**Інтэрв'ю з Э. Шыркоўскім, якое ён даў спецыяльна для «Звязды», чытайце ў наступным нумары газеты.**

**Аляксандр КОКТЫШ.**

Пасля выступлення ў Савеце Міністраў аб карупцыі (там я зачытаў даведку аб 63 фактах) пачалі выказвацца папрокі, незадаволенасць, а таксама раздавацца ананімныя званкі з пагрозамі і папярэджваннямі, каб КДБ не ўмешваўся не ў свае справы.

Калі такі прэсінг аказваецца на старшыню КДБ, які знаходзіцца пад аховай Вярхоўнага Савета, дэпутацкага корпуса, дык як жа справіцца з карупцыяй раённым пракурорам, начальнікам аддзелаў міліцыі? Я размаўляў з многімі з іх і яны адзначалі, што нічога не могуць даказаць, нічога не могуць прабіць, нічога не могуць вырашыць, і ў адзін голас заяўляюць: закона няма.

Вось вам у агульных рысах абстаноўка, якая склалася, што пацвярджаецца матэрыяламі, якія ў нас ёсць. Такіх матэрыялаў вельмі шмат, і збіраюцца яны, як снежны камяк. За мінулы і гэты год намі ўзбуджана 159 крымінальных спраў, арыштавана 171 асоба, шэраг матэрыялаў перададзены ў Пракуратуру і міліцыю, па якіх узбуджана 48 крымінальных спраў. Але, на наш погляд, гэта кропля ў моры і нічога яна не вырашыць. Відаць, мы прыцягваем да крымінальнай адказнасці асоб яшчэ не з тых эшалонаў.

Паводле нашых даных, заходнімі спецслужбамі створана сетка «інфарматараў», якая рэгулярна інфармуе зацікаўленых чужаземцаў аб унутрыпалітычнай і эканамічнай абстаноўцы ў рэспубліцы, аб мяркуемых назначэннях і перамяшчэннях службовых асоб у органах улады і кіравання, навуковых распрацоўках, якія вядуцца, маральным і псіхалагічным клімаце ў вядучых міністэрствах і ведамствах аж да перадачы ім матэрыялаў закрытых пасяджэнняў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, копій заключаных Беларуссю пагадненняў з іншымі дзяржавамі. Я павінен сказаць пра гэта як пра факт.

Раней гэта называлася ініцыятыўным шпіянажам, і асобы, учыніўшыя такія дзеянні, праследаваліся па закону (Хобта і інш.). Цяпер жа падобныя дзеянні разглядаюцца асобнымі грамадзянамі рэспублікі, у тым ліку і службовымі асобамі, як «праява патрыятызму», жаданне «дапамагчы» Беларусі выйсці з крызіснай сітуацыі, не усведамляючы, што тым самым яны наносяць урон нацыянальным інтарэсам. Напрыклад, не паспелі на закрытым пасяджэнні ВС прагаласаваць за ратыфікацыю Дагавора па звычайных узбраеннях, як вынікі галасавання сталі вядомы прадстаўнікам адной з заходніх спецслужб. Такіх прыкладаў дастаткова, працэс набывае абвальны характар. Людзі не разумеюць, што на падставе такой інфармацыі ўрадамі замежных дзяржаў прымаюцца палітычныя рашэнні, якія бумерангам б'юць па нашых нацыянальных інтарэсах. Калі


(Заканчэнне на 3-й стар.).





**«ЦІ ПАЕДЗЕМ ЗНОЎ З ВАРАГ У ГРЭКІ?»** ...Чатырнаццаць польскіх ваяводаў падпісалі спецыяльную дэкларацыю, якая прапануе разгледзець пытанне аднаўлення старога воднага шляху з Брэста ў Варшаву. Пракладзены па Заходнім Бугу і Вісле, ён звязаў бы Заходнюю Еўропу з Беларуссю і праз Днепра-Бугскі канал даў бы выхад да Чорнага мора. Для гэтага спатрэбяцца работы па паглыбленню рэчышча Віслы ў раёне Варшавы і рэканструкцыя шлюзавай гаспадаркі пад Брэстам. На думку экспертаў, гэтыя работы зоймуць не больш чым два гады і будуць каштаваць трыццаць мільёнаў долараў.

***

**ЦЭЛУЮ ПАДПОЛЬНУЮ ВЫТВОРЧАСЦЬ** выявіла група работнікаў міліцыі ў адным з цэхаў навапалацкага завода «Вымяральнік». На рабочых месцах заточнага ўчастка знаходзілася вялікая колькасць загатовак для кухонных нажоў. Іх вытворчасць тут, відаць, была пастаўлена на паток, адпрацаваны тэхналогія і шляхі рэалізацыі.

Дарэчы, лёзы нажоў былі выраблены з вострадэфіцытнай сталі, якой даўно няма на прадпрыемстве.

***

**15 БАНГЛАДЭШЦАЎ** з расійскімі загранпашпартамі былі затрыманы днямі на германскай граніцы. Згодна з пашпартамі, усе яны мелі прозвішча... Іваноў.

***

**АДКАЗВАЮЧЫ НА ПЫТАННЕ** «Ці пагадзіліся б вы адмовіцца ад тэлевізара да канца свайго жыцця, калі б замест гэтага вам заплацілі 25 тысяч долараў?», толькі 23 працэнты амерыканцаў адказалі «так, згодны». 46 працэнтаў гатовы пайсці на гэта не менш чым за мільён долараў, а 25 працэнтаў заявілі, што не аддадуць тэлевізар нават за мільён.

СЯРГЕЙ ГОЦМАНАЎ ПРА ЖАНОЧЫ ФУТБОЛ:

# «Жанчына павінна заставацца прывабнай і грацыёзнай... Качацца ў брудзе — не яе прызванне»

**Другі па ліку нацыянальны чэмпіянат па футболу аж да вясны 93-га ўпёрся ў свой экватар, тым самым падараваўшы футбалістам незвычайна працяглыя канікулы і рытарычнае пытанне: куды падзець такую процьму свабоднага часу?**

**Што датычыцца вынікаў першага круга, то няхай іх падвядзенне застанецца прэрагатывай каляфутбольных спецыялістаў і трэнераў, а мы ў сваю чаргу проста хацелі знайсці іграка, які на працягу лета — восені рабіў пэўнае «надвор'е» на футбольным полі.**

**Пасля некалькіх «за» і «супраць» выбар спыніўся на нестарэючым і (без малога) легендарным Сяргеі Гоцманаве. Так, адзін толькі пералік яго рэгалій займае саліднае месца: чэмпіён СССР—1982, бронзавы прызёр чэмпіяната-83, уладальнік сярэбраных узнагарод першынства Еўропы 1988 года, нарэшце, аўтар першага гола нацыянальнай зборнай Беларусі. Акрамя таго, адзін з рэдкіх легіянераў, які меў добрыя водгукі ў прэсе, выступаючы за англійскі «Саўтгемптан». І разам з тым Гоцманаў зусім не часты госць сродкаў масавай інфармацыі. Прапаноўваючы гэтую гутарку, мы спадзяёмся, што частка інфармацыйнага вакууму будзе запоўнена канкрэтнымі і лаканічнымі адказамі Сяргея Гоцманава напярэдадні апошняга ў гэтым годзе кубкавага матча з віцебскім «Лакаматывам».**

**— Без перабольшання, футболу аддадзены лепшыя гады жыцця. Сёння «гульня мільёнаў» на Беларусі перажывае глыбокі крызіс. Ці не ўзнікае адчування, што пасля стольких гадоў адданага служэння спорту застаўся ля разбітага карыта? Ці будзе ўсё-такі на Беларусі футбол спортам № 1?**

— Па-першае, тое, што мы зараз маем, хутчэй не крызіс спорту, а крызіс грамадства. А, па-другое, усякі крызіс—з'ява часовая. Для рэанімацыі патрэбен час, і немалы. Многім сёння проста не да футбола. Выратаванне вернецца разам са ўсеагульнай стабільнасцю. Спадзяюся, хутка.

**— Вачамі былога легіянера: у чым асноўнае адрозненне нашай футбольнай гаспадаркі ад заходнееўрапейскай?**

— Той футбол — адладжаны механізм, раўнапраўная індустрыя побач з самымі рознымі сферамі жыццядзейнасці. Гледзячы на наш падыход да спорту ўвогуле, кожны раз пераконваешся: слабае аматарства з прымешкам дылетанцтва. А калі ў двух словах — неба і зямля.

**— А ў адносінах да балельшчыкаў...**

— Не скажу, што ў нас яны горшыя, проста ім так доўга ўсё забаранялі, што нашы балельшчыкі не ўмеюць нармальна пахваляваца за сваю каманду. Усё зводзіцца да нейкіх нецэнзурных выкрыкаў у адрас каманды-саперніка. Каб многа не гаварыць, проста калі-небудзь прыслухайцеся пад час замежных трансляцый да рэакцыі на англійскіх, італьянскіх або іспанскіх стадыёнах.

**— Сяргей, твой футбольны вояж па Еўропе меў на мэце толькі фінансавы бок?**

— У пачатковай фазе хацелася перш за ўсё паспрабаваць свае сілы ў кагорце моцных прафесіяналаў. Ну, а калі «саўдэп» гучна праваліўся ў фінансавую бездань, дык матэрыяльны бок, адпаведна, заняў належнае месца. І я ніколі гэтага не адмаўляю.

**— Чым ты растлумачыш нечаканую тэндэнцыю да вяртання беларускіх футбалістаў на «гістарычную радзіму»?**

— Я не сцвярджаў бы, што гэта канчатковы варыянт. Проста супала вялікая колькасць вяртанцаў у адзін час. Нехта прыехаў з-за ўзросту, нехта з-за таго, што не апраўдаў надзеі, а хтосьці для таго, каб зноў паехаць. Я, напрыклад, ведаю, што Зыгмантовіч ужо сядзіць на чамаданах.

**— А як ты сам глядзіш на тое, каб пайсці па Еўропе па другому кругу?**

— Адзіная перашкода — узрост.

**— А калі больш канкрэтна?**

— Кантракт з «Дынама» ў мяне падпісаны да канца 1992 года. Як будзе далей — пакуль і сам не ведаю.

**— Г. зн. не выключана тваё чарговае знікненне з Мінска?**

— Не хацелася б зараз нешта абяцаць або прагназіраваць. Над такім крокам трэба ўсур'ёз падумаць.


(Заканчэнне на 2-й стар.).




НА ЗДЫМКУ: нялёгкая ноша аўтара першага гола зборнай Беларусі. На шчасце, заўсёды блізка «самы тэхнічны ігрок» нацыянальнай каманды Андрэй Зыгмантовіч.

Фота Ігара МАКАЛОВІЧА.

# Капіравальныя машыны і фотакамеры...

## Прыйдзіце — і Вы ўбачыце разнастайнасць прадукцыі фірмы «КАНОН».

Праводзіцца выстаўка, на якой будзе экспанавацца прадукцыя фірмы «КАНОН» — вядучай у свеце па сваёй передавой тэхніцы, яе эксплуатацыйных зручнасцях і надзейнасці. На выстаўцы дэманструюцца капіравальныя машыны і фотаапараты. Наведайце гэтую выстаўку — і Вы самі пераканаецеся ў вельмі добрай якасці прадукцыі фірмы. Не ўпускайце, калі ласка, такога выпадку.

# КАНОН МІНСК-92



паўнакаляровыя капіравальныя машыны



шматфункцыянальныя капіравальныя машыны



офісна-бытавыя капіравальныя машыны




фотакамеры

***Выстаўка праводзіцца ў Мінскім Палацы мастацтва***

**з 23 па 25 лістапада**

Час работы з 10.30 да 19.00

АДРАС: Мінск, вуліца Казлова, 3

ПРАЕЗД: метро «Плошча Перамогі»

**УВАХОД СВАБОДНЫ**

***Арганізатары выстаўкі:***

**ІнТЕк Ltd.**, Рэспубліка Беларусь
Тэлефон у Мінску (0172) 45-12-39, 45-91-03

**Марубені карпарэйшн**, маскоўскі офіс
Тэлефон у Маскве: (095) 253-28-59

**Canon Inc.**, Tokyo 163, Japan
Тэлефон у Токіо: 81-3-3344-8591

**Canon**

## Сапрапель

Нашы вадаёмы вельмі багатыя на сапрапель. Асабліва шмат яго ў паўночнай, паўночна-заходняй і паўночна-ўсходняй частках рэспублікі. Азёрныя краі—гэта і месца, дзе мноства шматвекавых кладовак.

У чыстым выглядзе гэтае ўгнаенне прымяняецца толькі агароднікамі. Вынік, як правіла, мізэрны. Каб яно запрацавала, яго ў вадкім выглядзе раскладаюць па полі. У выніку праветрывання, перасыхання і прамярзання азотныя злучэнні, якія былі недаступныя для раслін, становяцца вельмі эфектыўнымі.

Былі праведзены доследы. На сотку ўнеслі па 100—200 кг сапрапелю. Ураджай бульбы павялічыўся на 70 кг з соткі.

Трэба ўлічваць, што сапрапель бывае вапнавы, крэмніева-зямлісты, арганічны. Вапнавы больш прыдатны для кіслай глебы. У ім зусім няwhile азоту і калію. Затое шмат магнію. Найлепшы сапрапель арганічны, які ўтрымлівае азоту ад 2,3 да 4,5 працэнта. Заўважым, што гэты паказчык у некалькі разоў вышэйшы, чым, скажам, у свежага гною! Па сумарнай дозе фосфару, калію і мікраэлементаў арганічны сапрапель наблізкаецца ці пераўзыходзіць гной.

Аднак пры выкарыстанні трэба правяраць на ўтрыманне радыенуклідаў.




Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).

## Гатункі чорнай парэчкі

Гэтая культура дзякуючы карпатлівай працы вучоных нашай рэспублікі стала замацавалася на нашых прысядзібных участках. А такія гатункі, як «беларуская салодкая», «Мінай Шмыроў», «кантата», «партызанка», прыжыліся ў шматлікіх месцах, як цяпер кажуць, блізкага і далёкага замежжа.

«Беларуская салодкая» раянавана па ўсіх абласцях. Яна ўраджайная (вага ягады да 1,1 г), самаплодная. Ацэнка ягад —4,5 бала—паказчык вельмі высокі. Гэта, бадай, самая салодкая парэчка на Беларусі.

Выспявае ў сярэднія тэрміны. Ягады прыдатныя да ўжывання ў свежым і перапрацаваным выглядзе. Даволі высокі працэнт утрымання вітаміну С—274 мг.

«Мінай Шмыроў» вагой ягады ўступае. Але больш ранні. Куст сярэднераскідзісты, моцны. Ягады чорна-матавыя, прывабныя на выгляд. Яны густа ўсыпаюць галінкі. Ураджайнасць —да цэнтнера з соткі. У засушлівы перыяд патрабуе палівання.

«Партызанка»—сярэдняга тэрміну выспявання. Рэкордна высокае ўтрыманне вітаміну С—326 мг. Дэгустатары ацанілі яе ў 3,7 бала, што з'яўляецца сярэднім паказчыкам.

Расліна расце даволі шпарка. На трэцім (часам другім) годзе дае першыя зборы. Ягады вялікія—вага іх да 1,1 грама.

# Раіць доктар Мітлайдэр

### РАСАДА

Шматгадовы вопыт вырошчвання агароднінных раслін пераканаў Мітлайдэра ў тым, што амаль усе культуры трэба пачынаць з расады. Выключэнне складаюць толькі тыя, якія пры перасадках даюць разгалінаваны каранёвы валаснік — морква, пятрушка, цукровыя буракі і некаторыя іншыя. Зрэшты, і гэтыя культуры вырастаюць з добрымі вагавымі паказчыкамі, але вельмі няёмкімі.

Глеба для расады патрэбна рыхлая і без узбуджальнікаў хвароб. Значыць, з агарода, як гэта робяць шмат дзе, браць зямлю не трэба. Выключэннем могуць з'явіцца хіба што перапрэлыя кампосты, ды ніжэйшыя гарызонты парнічкоў. Там у час гніення арганічных рэчываў тэмпература павышаецца да 70 градусаў. Узбуджальнікі розных хвароб, насенне шкодных культур пры такой тэмпературы гінуць.

І ўсё ж лепшыя вынікі, паводле Мітлайдэра, будуць атрыманы з глебы, якая складаецца з рачнога пяску, пілавіння (асабліва ліставых парод дрэў), верхавога торфу, нейкіх дробных нейтральных часцінак (маленькіх кубікаў ці «зярнятак» розных пластмас), рэзанай саломы. Большасць з гэтых напаўняльнікаў папярэдне праграваецца ў печы ці на пліце. Некаторы час іх нават кіпяцяць. Мэта такой аперацыі — знішчыць усё шкоднае.

Да апілак і саломы (дробнай рэзкі) вельмі добра дадаць па шклянцы (на 4-літровую ёмістасць) попелу бярозавых, альховых ці дрэў іншых ліставых парод. Старанна перамяшаць. Атрымаецца рыхлая маса шэрага колеру. Яна прыдатная для высявання насення і пікіравання.

Насенне імкнёмся размясціць больш-менш раўнамерна ў скрынках, глыбіня якіх да 10 см. Канаўкі робім праз 2—3 см. Прыкачваем іх. Загортваем насенне, прытрымліваючыся простага правіла: чым меншае зярнятка, тым менш павінна быць над ім зямлі (паводле правіла Мітлайдэра — 2,5 акружнасці зерня). Зямля добра ўвільготненая. Загарнулі насенне — і прыціснулі зверху нейкай дошчачкай. Гэта для таго, каб усходы з'явіліся больш кучныя. Скрынкі ставім у цёмнае месца з тэмпературай 18—23 градусы. На гэтым этапе галоўнымі з'яўляюцца вільгаць і тэмпература.

Як толькі «праклюнуліся» першыя раслінкі, скрынкі выносім на святло. У гэты перыяд, акрамя вільгаці, патрэбна многа святла. Пачынаюцца падкормкі слабымі растворамі мінеральных соляў.

У фазе семядолі робіцца пікіроўка. Амерыканскі вучоны раіць зрабіць у глебе адтуліны спецыяльным прыстасаваннем (нешта накшталт вешалкі). У ямкі саджаюць па адным каліве. Браць за семядольныя лісцікі і асцярожна падкопваць невялічкай драўлянай палачкай. Імкнуцца перанесці з каранямі, адрэзаўшы самы доўгі. У ямцы расліну злёгку абцiснуць і паліць. Два-тры дні пікіраваныя асобіны трымаць не на вельмі яркім святле. Своечасова паліваць.

Як толькі раслінкі крануцца ў рост, даваць штотыднёвыя падкормкі сумессю № 2. Лепш у разведзеным выглядзе. І паліваць да трох разоў на дзень.

Пры зацяненні саджанцы вельмі выцягваюцца. Каб гэтага не здарылася, скрынкі ставяць на самым сонечным акне, робяць з фольгі, белай фанеры або звычайнай паперы экраны. Яны накіруюць дадатковае святло на расаду. На паўночных падаконніках навешваюць магутныя электралямпы для падсвету.

Малыя падаконнікі — малыя магчымасці. На дачах, ля сялянскіх хат майструюць парнікі. Плёнка без дзірак, у два слоі. Слаі не датыкаюцца адзін да аднаго. Можна ў вялікім парніку зрабіць маленькі — над расадай.

Расаду высаджваем на «градкі Мітлайдэра» як толькі міне небяспека замаразкаў (пасля 14—25 мая), а глеба дастаткова прагрэецца. Расаду вельмі моцна паліваем. Зноў драўлянай лапатачкай даволі значнага памеру «паднімаем» расліну, захопліваючы яе левай рукой. Правай жа вымаем як мага больш зямлі на градцы (ямка даволі вялікая) і, апусціўшы туды расліну з каранямі, прысыпаем вынятай зямлёй, злёгку абціскаем і паліваем. Далейшы догляд апісаны ў папярэдніх публікацыях. Нагадаем толькі, што ўся гэтая аперацыя ажыццяўляецца ў адзін дзень: рыхтуюцца градкі, раўнуюцца, ладзяцца валікі і высаджваюцца расліны ці высяваецца насенне.

Што дае расадны метад? Вельмі раннія зборы агуркоў, памідораў, капусты, бульбы, цыбулі, гароху, бобу, фасолі і іншых культур. Практычна бульба ранніх ці сярэдняранніх сартоў выспее ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня. У гэтыя ж тэрміны нальюцца і чырвоныя памідоры. Агуркамі можна ласавацца ўжо ў першай палавіне чэрвеня.

Да пачатку жніўня ўраджай з большасці культур будзе зняты. Для дачніка пачнецца другі этап — высадка расады другой чаргі і ў верасні—кастрычніку яшчэ адзін збор ураджаю. Вядома, не ўсіх культур.

(Працяг публікацый пра доследы амерыканскага вучонага. Пачатак у нумарах за 28 кастрычніка, 4 і 11 лістапада г. г.)

## СНЕГ НА ДРЭВАХ І ПАД ДРЭВАМІ

**Першы снегапад у рэспубліцы аказаўся надзвычай «ураджайным». У асобных месцах ён дасягаў трох дзесяткаў сантыметраў! Галінкі часам не вытрымлівалі цяжару і паламаліся. Падобная з'ява можа паўтарыцца. І не адзін раз.**

**Дачнікам пасля кожнага такога вялікага снегу варта наведаць свае сады. Спецыяльнай палкай ці падпорай крануць галіны. Снег асыплецца. Яблыня з палёгкай уздыхне. Узрадуюцца і нешматлікія зімовыя птушкі. Яны змогуць знайсці для сябе корм у выглядзе лічынак і яйцакладак шкоднікаў.**

**Правядзём і такі «аграпрыём». Утопчам снег ля штамбаў, імкнучыся як мага лепш утрамбаваць яго. Можна нават падсыпаць крыху. Гэта робіцца для таго, каб мышы і пацукі не вельмі гулялі каля дрэў. Яны часта абгрызаюць кару (асабліва маладую). А яшчэ «ныраюць» каля штамбаў углыб, дасягаюць тоненькіх каранёў і ласуюцца імі. Часта там ладзяць свае гнёзды. Абтаптаны снег (асабліва ў час адлігі) становіцца цвёрдым бы лёд. Ніводная мыш не пройдзе скрозь яго.**

**Наогул, снег трэба назапашваць. Дзе гуляюць вятры і мяцеліца, раскладзіце галінкі, пастаўце шчыты ці якія-небудзь плоцікі. Яны збяруць каля сябе снег. А вільгаць не пашкодзіць ніколі. Як не пашкодзіць тоўстае белае покрыва, якое абароніць дрэва ад магчымых моцных (за 30 градусаў) маразоў.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 18 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**

**10.45.** «Вобраз». Літаратурны часопіс.
**16.30.** «Усе мышы любяць сыр». Спектакль Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.
**17.40.** «Давай мяняцца», «Дзядулева дудачка». Мультфільмы.
**18.00.** Дак фільм «Жылі-былі людзі...»
**18.20.** Вучымся бізнесу. Як стаць прадпрымальнікам?
**18.50.** Накцюрн.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** «Пяць зорак». Тэле-гульня.
**19.55.** Шануйце песні свае. Народная спявачка М. Мялешка з Гродзенскай вобласці.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** «Рыцары неба». Мастацкі фільм (Францыя). 1-я серыя.
**21.55.** НІКа.
**22.20.** «Пакуль гарыць свечка...» Паводле вершаў М. Цвятаевай; НІКа; Л. Бетховен. Сімфонія № 7. Выконвае сімфанічны аркестр Беларускай акадэміі музыкі.

**Канал «Астанкіна»**

**12.35.** Мультфільм «Стары аўтамабіль».
**12.40.** «Не сышліся характарамі». Мастацкі фільм.
**12.35.** Т. Ін. Ка.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** «Пчала Мая».
**16.05.** Дадатак да праграмы «Рок-урок».
**16.50.** Прэс-экспрэс.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** «Астанкіна» прадстаўляе.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.45.** Тэатр плюс ТБ.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** «Шчырасць Іаана Першадрукара». 4-я серыя.
**21.40.** Праграма У. Малчанава «Успамін».
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Радыё «Труба».
**23.55.** «Цунамі». Дак. фільм.
**0.55.** «Не сышліся характарамі». Мастацкі фільм.

**Канал «Расія»**

**15.00.** Бізнес: новыя імёны.
**15.15.** Сочы. Бархатны сезон.
**15.45.** Абмеркаванне аўстрыйскага тэлефільма «Сям'я Смірновых». Як жыць далей?»
**16.00.** Там-там-навіны.
**16.15.** Далёкі Усход.
**17.00.** Хрысціянская праграма. «Джоні».
**17.30.** «Давайце разбяромся».
**17.45.** «Мастацтва належыць народу». Дак. фільм.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.25.** «Санта-Барбара».
**20.15.** «А, Б і гэтак далей». Мультфільм для дарослых.
**20.20.** Фарс-мажор.
**20.50.** Крымінальныя паведамленні.
**21.00.** «Монстр». (Расія — ЗША). Фільм 3-ці «Сталін: кантроль над розумамі і душамі».
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** На сесіі ВС Расіі.
**23.00.** Экзотыка.

### 19 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Востраў загінуўшых караблёў». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**9.55.** «Ханума». Фільм-спектакль.
**16.30.** Беларуская літаратура. 11-ы клас.
**17.05.** «Нязнайка ў Сонечным горадзе». Мультфільмы.
**18.00.** Дак. фільмы «Сайгакі», «Як справы, запаведнік», «Маржы».
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**19.45.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.10.** Хакей. Кубак МХЛ. «Дынама» (Мінск) — СКА (Санкт Пецярбург).
**20.50.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе...
**23.00.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Фірма гарантуе.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.50.** Канцэрт ансамбля яўрэйскай музыкі «Сімха».
**10.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Дзіўныя дарослыя». Мастацкі фільм.
**12.35.** «Страціўшы памяць з Каленьё». Мастацкі фільм (Італія).
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.10.** Блакнот.
**15.15.** «Пчала Мая».
**16.05.** «440 герц».
**16.50.** Прэс-экспрэс.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.45.** Кінапанарама.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Лато «Мільён».
**21.15.** «Шчырасць Іаана Першадрукара». 5-я серыя.
**22.30.** Чорная скрыня.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** А. Скрабін. Першая сімфонія.
**0.15.** «Каб свечка не пагасла». Памяці Л. М. Гумілёва.
**0.50.** «Страціўшы памяць з Каленьё». Мастацкі фільм. (Італія)

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Час дзелавых людзей.
**7.55.** «Монстр». (Расія — ЗША). Фільм 3-ці «Сталін: кантроль над розумамі і душамі».
**8.45.** Вольны час.
**9.00.** «Абзац».
**9.30.** Непазнаны Сусвет.
**10.00.** Экзотыка.
**11.00.** «Санта-Барбара».
**11.50.** Пілігрым.
**12.35.** Т. Ін. Ка.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Вучыцца рынку.
**15.30.** Студыя «Рост». «Музычныя прыгоды».
**16.00.** Там-там-навіны.
**16.15.** Панарама прыватызацыі
**17.00.** Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з НАТО.
**17.30.** Парламенцкі веснік.
**17.45.** Дж. Сэлінджэр. «Лапарасцяпа». Тэлеспектакль.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.25.** «Санта-Барбара».
**20.15.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**20.45.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**21.00.** На палітычным Алімпе.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** На сесіі ВС Расіі.
**23.00.** Арт-абстрэл.

ФІРМА
**ПРАДАЕ**
**ЦУКЕРКІ польскай вытворчасці**
дробным ці буйным оптам.
**Тэл. у Мінску: 60-33-11, 63-22-69.**

ПРАДАЮ
НОВЫЯ
пральную машыну «Вятка-аўтамат-14», вязальныя машыны «Ладага» і «Нява». НАВУЧУ ПРАЦАВАЦЬ НА ІХ.
Тэл. у Мінску:
31-75-94, 78-80-92, 77-21-68, 77-21-38.

**Арганізацыя ПРАДАЕ МАЗ-5429. Звяртацца ў Салігорску па тэл. 2-51-42.**

## НАДВОР'Е

### 18 лістапада

Сёння ўдзень на большай частцы тэрыторыі чакаюцца дажджы, мокры снег, месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску 0—2, Магілёве—1—3, Мінску — 2—4, Гродна — 3—5, Брэсце, Гомелі — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі ападкі, слабы галалёд. Вецер паўднёва-заходні 6—11 метраў у секунду. Тэмпература паветра ўначы каля нуля, удзень — 0—5 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў пятніцу, 20 лістапада г. г.**

**Згубленае пасведчанне інваліда серыі 07 № 067026 ЛІЧЫЦЬ НЕСАПРАЎДНЫМ.**

**Згубленае пасведчанне ўдзельніка ліквідацыі аварыі на ЧАЭС серыі А № 807797 на імя Палікарпава Пятра Антонавіча ЛІЧЫЦЬ НЕСАПРАЎДНЫМ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

**Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.**

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін — 32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.* **Тэлефакс: 32-22-03.**

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».**
**Тыраж 81.098. Індэкс 63.850. Зак. № 232.**
**Выходзіць 250 разоў на год. Нумар падпісаны ў 21.00.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**